***З выказванняў А. Кашавара:*** *«Каб нарадзіцца, трэба шчасце, а лёгка памерці — двайное».*

## Жалудовы хлеб

Абодва Фёдаравічы, мае суразмоўцы (я не сказала, што Кашавар жыве ў Слуцку), болей апавядалі пра гаспадарчую сферу жыцця, пра ваеннае ліхалецце, пра лёсы аднавяскоўцаў. І толькі пры магчымасці другой публікацыі нарыса я заварушыла сясцёр: Нінку Лідскую (Рыльчыкаву), Ніну Слуцкую (Каржанеўскую) і Таню Гэліну, як мы ўсе іх завём. Прыставала па тэлефоне: раскажыце ды раскажыце... А пра што расказваць, калі ўсё жыццё складаецца з драбніц? Калі адышлі, аддаліліся ў часе родныя людзі разам з падзеямі, смуткам і радасцю, з пасляваенным горам і нястачаю... Калі болей турбуе сённяшняе — зношанае сэрца, дарагія дровы, халодная хата...

Якраз пасляваенны перыяд мяне цікавіў найболей. Але мае археалагічныя раскопкі ў памяці сясцёр былі не надта ўдалымі. Не ўсе захацелі туды вярнуцца, вярэдзіць дзяціныя раны. Найбольш ім запомніўся ўдзел у працы дарослых. Гадам к пятнаццаці дзяўчатам ужо давяралі ў рукі серп. Капалі з бацькамі торф. Палолі буракі, бульбу, грэчку, ячмень. «Уся калгасная прапалка трымалася на дзецях і бабах, — расказвае Ніна Лідская. — Мы, падлеткі, асабліва стараліся, бо ў канцы дня параўноўвалі горкі вырванага пустазелля. У каго большая, таму і пачоту болей. Працавіцей за ўсіх была Мішава Ніна».

***З асабістага.*** *Маё ранняе дзяцінства праходзіла сярод старэйшых сясцёр. Насціна Ніна, як і я, была змалку пакінута ў бабулі і нават скончыла ў Лясішчы пачатковую школу.З дзедам яна рашала задачкі, а бабу Маню адзін час звала мамай. З другога канца вёскі прыбягалі Гэліны дзяўчаты, Ніла з Таняй. Жывучы па суседству, ахвотна далучалася да кампаніі Мішава Ніна. Прыязджала з Ліды на канікулы меншая Насціна дачка, Галя. Так што дзедава хата звінела дзявочымі галасамі, ды і падмога старым была. Без унучак, думаю, 70-гадовай бабулі цяжка было б спраўляцца з гадавалым дзіцем.*

*Сёстры даглядалі мяне, калі бабуля была занята, вазілі ў драўляным вазку на поле, забаўлялі. Разам падрасталі, сталелі, потым — ужо раз'ехаўшыся — не абрывалі крэўнай сувязі і ўсё адна пра адну ведалі. Выразны дзіцячы ўспамін: дзяўчаты скрабуць дзеркачамі лавы і ўпрыгожваюць куты галінкамі перад Тройцай...*

Сёстры запомнілі таксама голад, нястачу і традыцыйную для вёскі антысанітарыю. Міса, дзве лыжкі ды крывы відэлец — уся сервіроўка стала. Чыгуны з вёдрамі — усё кухоннае начынне. Каб адшараваць яго рукамі, трэба немалую сілу прыкласці. У якасці лазні служылі драўляныя ночвы. У печы настойвалі попел для мыцця галоў. Бяднейшых данімалі вошы і глісты. Дзяўчаты вычэсвалі валасы частымі грабеньчыкамі над гарачай засланкай з печы. Сродкі гігіены

тыпу духмянага мыла і туалетнай паперы былі недаступнымі. Якая папера, калі не ва ўсіх былі збіты з дошак прыбіральні?!

***Жывыя драбніцы****. У канцы 1920-х з Палесся прывозілі белую гліну. Палешукі ехалі на вазах праз вёску і выгуквалі: «Каму галкі? Каму галкі?» Галкамі зваліся камякі белай гліны, якую заварвалі, а пасля бялілі печы і мылі бялізну. Бліжэй да вайны мыла навучыліся варыць самі.*

Ідучы ў беларускую вёску, цывілізацыя дзесь затрымалася. Толькі на мяжы 1960-х правялі электрычнасць і радыё. Лазню збудавалі яшчэ пазней — калі ўзвялі воданапорную вежу. Праслужыла лазня не так доўга і пайшла ў нябыт разам з калгасам. Такі ж лёс спасціг і мясцовы клуб. Не хапала ўсяго: прасцін, адзення, абутку, посуду. З лекаў ведалі адзін ёд. Ніхто не чуў пра матрасы. Згадайце: у 1961 годзе паляцеў у космас першы касманаўт. Пры Карыбскім крызісе было чым рэальна пагражаць амерыканцам. Так што з інжынернай думкай і ўзбраеннем усё было ў парадку. Больш за дзесяць вайсковых гарадкоў вакол аднаго толькі Слуцка — гэта таксама шмат пра што гаворыць.

Калгаснікі рэдка бачылі «жывыя» грошы — ім налічвалі працадні, на якія выдавалі зерне і іншае. Сем'і трымаліся на кармільцах — мужчынах, а ўдовы гаравалі як ніхто. Ева Шкураіха (Аляксеева) засталася адна з чатырма дзяўчатамі. Звалі яе не па імені, а па мянушцы мужа-прымака. Пра таго гаварылі: «Не наш, бо гаворка інакшая». Свае казалі «паганяй каня», а той —«пашкурай каня».

***З успамінаў Ніны Рыльчыкавай.*** *Шкураіха жыла каля нашага дзеда. Прыйшла я да сваіх сяброўак-аднагодак, а ў іх сняданак. На стале неабіраная бульба і рэдзька, парэзаная на кавалкі і палітая малаком. Цудам яны захавалі карову, а вось сала бачыць не даводзілася. Вяла аднаго разу суседка чужога каня ў свой двор. Той ля варотаў паслізнуўся ды ўпаў. Няшчасная жанчына аж зайшлася над гэтым канём, бо не магла яго падняць. Вось што такое застацца без гаспадара...*

І ў Гані Грачок дзяцей было поўна, дык яна ўвесну мерзлую бульбу збірала на крухмал. У Хрысціны Гурыновіч тры дачкі асірацелі, а яшчэ ж, як на тое, пацякла хата. Далі ёй з калгаса кулёвай саломы, каб залатаць страху. Як праводзілі ім святло, электрык дзівіўся: «Божа мой, як яна жыве, гэтая жанчына? Не вазьму з яе ні капейкі, хай хаця дзяўкам рэйтузы купіць».

Лепш за іншых пачувалася хіба Мішава ўдава Ева. І сама настаўнічала (ездзіла на цягніку аж за 35 кіламетраў), і бацька нядрэнна зарабляў, стаўляючы ў наваколлі зрубы замест спаленых хат, і брат дапамагаў. А пасля другі раз выйшла замуж — за Самусевіча Дзмітрыя. Пра яго гаварылі: «Каралём быў — што на рабоце, што выпіць, што ў валейбол пагуляць. Тараноўкі жонцы прыносіў». З Евіных блізнят выжыла адна Соня. І застаўся горкі ўспамін: калі адзначалі радзіны першай іх дачкі, Ніны, грымнула вайна. Пачалася

бамбёжка, і ўсе — бацькі, кума, госці — разбегліся па канавах.

Адно, што на той час было добра, — клопат пра інвалідаў вайны. Іх улада «глядзела добра»: ад саюзнікаў перападаў так званы рацыён з кансервамі, у спецкраме ў Навадворцах выдавалі дыетычнае мяса (індычыну, трусяціну), па талонах выдавалі муку. А ў краме маглі адмераць не 5, а 10 метраў тканіны, хоць чарга і хвалявалася.



*Вул. Пралетарская. Фота Ч. Мезіна. 1953 г.*

Усё гаспадарчае і культурнае жыццё лесішчан круцілася вакол Слуцка. (У Сліву адно дзеці хадзілі ў школу.) Горад ёсць горад — там і базар, і царква, і аптэка, і магчымасць зарабіць, і сваякі ў многіх. Акрамя таго, па дарозе знаходзіўся сельскі Савет у Навадворцах. Прадаць яйкі, свежыну, купіць соль і запалкі — толькі ў Слуцк. На вуліцу Пралетарскую (цяпер Валадарскага) ездзілі «ў наймы да жыдоў»: церабілі буракі, пілавалі, складвалі дровы. Вазілі на продаж адборны «беразак». Якраз на гэтым моманце А. Капарыха зрабіў важнае ўдакладненне: пракаветныя лясы вакол нашай вёскі знішчыла ваеншчына пад палігоны і стрэльбішчы. Вучылілся страляць у бок Некрашэўскага лесу, што знаходзіўся

паміж Лясішчам і Новым Дваром. Жанчыны з дзецьмі хадзілі туды па буякі і чарніцы. Быў выпадак, калі адну падстрэлілі. Цяпер на месцы былога лесу чыстае поле. Пасля вайны мужчыны бралі кашы і ездзілі ў лес па жалуды, якія малолі і дабаўлялі ў корм свінням. Бяднейшыя спрабавалі пячы жалудовы хлеб. Дзіўны быў на выгляд, чырванаваты. «Я папрасіў у хлопцаў паспытаць. Есці можна, толькі гарэніў», — працягвае апавяданне Аляксандр Фёдаравіч.

У царкву лесішчане хадзілі «на востраў». Шчырымі верніцамі былі Варвара Красуцкая, Зося Кашавар, Аўдоцця Капарыха. Яны трымалі строгі пост, наведвалі ўсяночныя, хрысцілі і прычашчалі дзяцей. На вялікія святы да іх далучаліся мужы. Старая Свята-Міхайлаўская царква захавалася па сёння і мае статус сабornнага храма.

## «Сашык» Капарыха



*Такім ён быў у 70 гадоў*

Каб адшукаць паболей звестак пра родную вёску, я сустрэлася ў Мінску з земляком Капарыхам Аляксандрам Фёдаравічам (1923 года нараджэння). Ягоны дзед Іосіф Паўлавіч быў родам з Бокшыцаў, у вёсцы яго ўсе звалі выключна Ёсіпкам. Бацька Фёдар, як і

дзед, быў на ўсе рукі майстрам, гаспадарку меў заможную. У сям'і было чацвёра дзяцей. Саша з дзяцінства быў гаваркім, жвавым, адрозніваўся лёгкім, вясёлым характарам (які, дарэчы, захаваў па сёння). Ён успамінае, як дапамагаў маці, Еўдакіі Васільеўне, пячы хлеб. Браў іголку з ніткай, ішоў у лес і абіраў там дубок. Лісты нізаў на нітку, надзяваў на шыю і так нёс дадому, каб пасля іх маці клала на лапату, пад буханкі. Калі Саша з братам адыходзілі на вайну, маці ранкам выграбла з печы забыты бохан хлеба. Яна палічыла гэта добрым знакам. Дала па кавалку сынам і сказала: «Хавайце пры сабе. Як бы цяжка вам ні было, а гэты хлеб вас зберажэ».



*Вучні Лясіцкай школы з настаўніцай. 1948 г.*



*Ніна Юр'еўна*

Так і выйшла. Абодвух раніла — і абодва засталіся жывымі. Але не будзем забягаць наперад.

Пры акупацыі пайшлі чуткі, што жанатых хлопцаў немцы ў Германію не забіраюць. Сашу 18 гадоў, маладзён, а бацька ўжо нявесту нагледзеў — Ніну Ярашэвіч, што жыла непадалёку. Прыгледзься, кажа, якая дзяўчына... «Ну і як яна табе? Мо ў сваты пойдам? — не адставаў бацька. — Каб жа іншы хто не схапіў...» І ўгаварыў-такі сына. Выправілі да Ніны сватоў.

Пярсцёнкі ім выплесквалі з жоўтых медных манет, шліфавалі, падганялі. Падчас вянчання ў слуцкай царкве людзі шапталіся: «А маладзенечкія якія...» Ніна трошкі вышай і кучаравая (і дзеці ў іх кучаравыя ўдаліся). З Вясеі нанялі аж сем музыкаў, гулялі на вуліцы. Пасля вяселля, расказвае Аляксандр Фёдаравіч, павялі маладых на ноч у чыстую палавіну. А маладая і просіць: «Пакуль я не прывыкну, не ўліюся ў вашу сям'ю — ты мяне не чапай. Ці мала што...» Два месяцы так было. І настолькі нявестка панаравілася бацькам, так «улілася», што стала як свая, як тут і нарадзілася! «Тата», «мама», паважлівая, работу з рук адбірае... Мужа звала толькі «Сашык». А як умела прыўзняць, падвысіць самаацэнку! Як такую не любіць?

У 1944-м А. Капарыха пад Кёнігсбергам быў цяжка паранены. Ваяваў ён разам з дваюрадным братам Яшам (яны прасілі камандзіраў, каб іх не разлучалі). Падчас бою аднойчы трапілі пад такі абстрэл, што галавы няможна было падняць. Першым брата параніла ў руку разрыўнымі кулямі, потым Сашу — у абедзве нагі. Цэлы дзень яны ляжалі на полі бою.

***З успамінаў Аляксандра Капарыхі.*** *Выносіў мяне на спіне салдат з суседняй роты. Перамовіліся з ім, аказалася — случак, з Бярозаўкі, завуць Міша Шыловіч. Ён пытае: «Куды цябе раніла?» Кажу: «Многа ран».*

*Праз 30 гадоў на слуцкім базары перасёкся я з мужыком, бо і ў мяне «Запарожац», і ў яго. Разгаварыліся пра запчасткі, пра тое, дзе ваявалі, хто куды паранены быў... «А ты не той баец, у каторага многа ран?» Першы, атрымліваецца, мяне пазнаў! Абняліся, як родныя...*

Якаў Капарыха з вайны не вярнуўся. Аляксандр больш як год пракачаўся ў шпіталях. Раздробленыя косці на правай назе зрасліся няправільна, выходзілі асколкі, і жыццё было пад пагрозай. Медыкі напісалі бацькам: «Так і так, патрабуецца ампутацыя; не аднімем нагу — не выжыве». Бацькі адказалі: «Вам лепш ведаць, ратуйце як можаце».

***З успамінаў Аляксандра Капарыхі.*** *23 лютага мяне на поездзе прывезла ў Слуцк медсястра. Я на пратэзе, з кастылямі, у зімовай салдацкай шапцы. Снегу ў нас — па пояс. Добрыя людзі*

*знайшлі каня, прывезлі дадому. Маці галосіць, жонка абдымае...*

*Кожныя выходныя ў клубе ладзілі танцы. Я, праўда, упіраўся: «Куды я такі?» А жонка ўсё роўна выцягнула. Яна ж танцорка змоладу, фізкультурніца... Лейтэнант падышоў, схіліўся перад ёю — запрашае. Яна ў мяне пытаецца: «Ісці?» Я дазволіў. Той і другі раз падступае, але болей Ніна не пайшла з ім. Такая разумная была жанчына...*

Трэба сказаць, што ў бядзе Аляксандра не пакідаў ніхто — ні сваякі, ні жонка, ні дзяржава. Бацька збудаваў сыну асобную хату, свінню даў з парасятамі, цешча выдзеліла цялушку. Дапамагаў муж старэйшай сястры Надзі — Сяргей Грачок, добры, душэўны чалавек. Праз год нарадзілася першая дачка, потым — хлопец, затым яшчэ дачка. Тры гады прыходзіла вайна ў начных кашмарах, а потым адступіла. Жыццё наладжвалася. Жонка працавала ў Лясіцкай пачатковай школе, «усіх перарасткаў павывучвала». Працу яму як інваліду падбіраў райсабес: устроілі кладаўшчыком. Усім у брыгадзе распараджаўся Капарыха — фуражом, сіласам, камбікормам, і гэта з шасцю класамі адукацыі! Добра, што жонка навучыла карыстацца лічыльнікамі... З'ездзіў, кажа, чатыры бясплатныя «Запарожцы» і не меў звычкі, як іншыя, зазіраць у чарку. На такой жа выдзеленай дзяржавай машыне ездзіў вялікі сябра Капарыхі Міша Валатовіч (сын Мілі, жыў насупраць нашага дзеда), які з фронту вярнуўся без абедзвюх ног. І яму даверылі адказную

пасаду — загадваць фермай. Можна сказаць, што два франтавікі і трымалі брыгаду. Моцная была, багатая ў Лясішчы гаспадарка. Племянных цялят 700 галоў, а яшчэ 300 — аўцаматак і бараноў.

Пакінуў працу Капарыха па стане здароўя ў 1980-х, калі калгас ішоў ужо да заняпаду. Ніны Юр'еўны не стала ў 2003 годзе. Перад смерцю, перанёсшы інсульт, яна на гарадской кухні абняла нечакана свайго «Сашыка», пацалавала і прамовіла: «Дарагі мой, за ўвесь свой век я табе не змяніла». Цяпер ён пад апекай дзяцей-мінчукоў, узімку — у горадзе, а летам — у роднай вёсцы.

## Момант ісціны

Шэсць гадоў мне, вялікая, а бацькоў бачу рэдка — у Капыльскім раёне яны працуюць аграномамі, пачалі там будавацца. Верасень, мае сяброўкі збіраюцца ў школу, і я за імі следам: таксама хачу вучыцца. Настаўніца, здаецца, і выгляду не падала, што я там «незаконна». Аловак мне дала, сшытак, палачкі паказвала... Дні два гэтак «гуляла» я



*З маці. 1953 г.*

ў першакласніцу, пакуль хатнія хітрасцю не затрымалі мяне дома.

Эпізод гэты згадаўся мне падчас гутаркі з Аляксандрам Фёдаравічам. Пачала высвятляць: хто яшчэ мог там вучыць у пачатковых класах? І ўрэшце зразумела, што «вучылася» я ў Ніны Юр'еўны, яго любай жонкі! Усё неяк сышлося, склалася ў адну карціну: і як я шукала тэлефон земляка праз сястру Таццяну, і як дамаўлялася аб сустрэчы, і як блукала ў незнаёмым раёне, адшукваючы патрэбны дом...

Усе тыя шэсць гадоў, пакуль я вырастала з кашулек у дзедавай хаце, ён быў недзе блізка — суседам, таварышам нашага дзеда, сябруком Алёшы і Хведара Кашавараў. З яго сынам-аднагодкам мы, вядома ж, гулялі ў дзіцячыя гульні. Я ўглядалася ў прамяністы, усмешлівы твар старога, як быццам хацела выклікаць з падсвядомасці яго ранейшы вобраз — якім ён быў пяцьдзясят з лішнім гадоў таму...

Хоць майго дзеда Капарыха ведаў «як аблупленага», але расказаў пра яго мала. Запомніў толькі яго старым, панылым, калі той сядзеў на лаўцы пры сваёй хаце і ціха жаліўся: «Стараўся я, стараўся, рабіў, рабіў — і на калхоз, і на Алёшу (зяця. — *Г. К.*)... Раней трэба было пакінуць. А цяпер няма сілы...» Што работнік ён быў рэдкі, усе гавораць. Кажуць, на працы не даваў вяскоўцам перакурыць. Маўляў, чаго сядзець дарэмна? Да жонкі ён таксама не надта быў спагадлівым, і калі адышла

яна па хваробе ў лепшы свет, гаварыў мужчынам: «Беражыце сваіх бабуль».

Вобраз дзеда з часам перацярпеў пэўныя змены і змяніўся ў бок больш рэалістычны. Вобраз бабкі Мані па-ранейшаму невыразны, цьмяны, хаця кажуць, што яна, нягледзячы на ўзрост, даглядала мяне добра і ўвогуле з людзьмі была выключна далікатнай. І толькі вобраз вёскі застаецца ранейшым. Яна стаіць у мяне перад вачыма такой, якой была **тады**. Зрэшты, не так ужо і змянілася Лясішча, хіба што даўно разбурыўся клуб, з’явіліся дачнікі ды апусцелі асобныя хаты. А людзі жывыя, пакуль іх памятаюць. І жывыя, і мёртвыя аднолькава жывяць свой род, а значыць — і народ.

*Восень 2009 г.*



*Студэнтка. 1968 г.*

# ЛАГОЙШЧЫНА

## З АЎТАБІЯГРАФІІ

Самы час перайсці да Лагойшчыны, куды мы пераехалі ў 1963 годзе. Падставай для пераезду стала павышэнне па службе бацькі, які паспеў закончыць Горацкую акадэмію і яго прызначылі дырэктарам саўгаса «Янушкавічы». Маці пры ім з аграномкі перавучылася на настаўніцу біялогіі. Я пайшла ў шосты клас мясцовай дзесяцігодкі.

Янушкавічы — цэнтр гаспадаркі, своеасаблівая сталіца. Мясцовая інтэлігенцыя пагалоўна вучыла дзяцей іграць на баяне; нават я цэлы год цягала непаваротлівыя мяхі. Ля школы ўзвышаецца адзін з характэрных для Лагойшчыны марэнных узгоркаў, прынесеных ледавіком. На «гары» мы рвалі першыя пралескі і чаромху, туды хлапчукі збягалі з урокаў, на ёй традыцыйна сустракаюць світанні выпускнікі. На гэтай верхатуры хтось прыдумаў паставіць помнік партызанам — прымітыўную, быццам сякерай вычасаную постаць з аўтаматам. Помнік тут жа і назаўсёды назвалі Парфірам — па імені мясцовага ветэрана вайны.

Настаўнікі ў нас былі цікавыя, кожны ў нечым адметны. У школе працавала некалькі сямейных пар. Сярод іх Мацкевічы, фізік і матэматычка,

а таксама Жардзецкія. Пётр Яўстаф'евіч займальна выкладаў гісторыю, а яго жонка, Вольга Міхайлаўна, вяла ў нас беларускую мову. Менавіта яна адправіла мае першыя вершы ў раённую газету «Ленінскі сцяг» (цяпер «Родны край»), дзе іх надрукавалі. А Іван Нікіфаравіч Жардзецкі ўвогуле славіўся на ўвесь раён сваёй эксцэнтрычнасцю. Выкладаў ён нямецкую мову, і я нават прымала ўдзел у алімпіядах. Нязменным аўтарытэтам карыстаўся звыш дваццаці гадоў свайго дырэктарства Уладзімір Антонавіч Рыбчык. Школа была беларуская, толькі бліжэй да выпуску пачалі з'яўляцца прыезджыя настаўніцы, якія выкладалі як умелі. Вучылася я на выдатна, аддавала перавагу гуманітарным прадметам і закончыла школу з залатым медалём (які згубіўся пры чарговым пераездзе).

Янушкавічы — пачатак майго дарослага жыцця. Усё было першым — і вызначальным, усё запачаткоўвала будучы шлях. Першыя вершы на рускай мове я ўстаўляла ў сачыненні, за што класная мяне пахваліла. Паралельна пісаліся і на роднай мове, прычым атрымлівалася лепш, больш вобразна і натуральна. Прыхільна падтрымаў маю пачатковую творчасць рэдактар раёнкі Уладзімір Браніслававіч Сасноўскі. Лёгка вызначылася з паступленнем у ВНУ і стала студэнткай філалагічнага факультэта БДУ.

А як абыдзеш першае каханне да аднакласніка Мікалая Чэрніка, які пазней стаў мужам, як не згадаць пра нараджэнне першай дачушкі?

...Але жыццёвая дарога рабіла наступны паварот: муж адслужыў і падаўся працаваць па ваеннай лініі, так мы аказаліся ў вайсковым гарадку мястэчка Плешчаніцы, што паўночней Лагойска. Туды ж пераехалі бацькі, якія перш жылі на часовай кватэры, а пасля збудавалі яшчэ адзін, апошні свой дом.

У Плешчаніцы я прыехала не толькі настаўніцай (апошнія гады вучылася завочна), але і паэткай з першай кніжкай. Педагагічная праца давалася мне цяжка, я неяк завельмі сур'ёзна да яе ставілася. На кожны ўрок ішла як на выпрабаванне. Бо для таго, каб «трымаць» клас, патрабуецца большая энергетыка, чым у мяне была. Атачэнне вайсковага гарадка, досыць вузкае і задушлівае, не спрыяла духоўнаму росту. Тым не менш паэзія была са мной, і ўвесну 1976 года я прадстала перад прыёмнай камісіяй Саюза пісьменнікаў.

І хоць далейшае маё жыццё звязана з Мінскам, але Плешчаніцы на дзясяткі гадоў сталі месцам прыцягнення для нашай сям'і. Там кожнае лета праводзілі летнія канікулы і адпачынкі падрослыя дочкі. Патрабавала дадатковых рук бацькоўская гаспадарка, і значная частка нашых паездак у мястэчка звязана з нарыхтоўкай сена для каровы, набыццём і смаленнем парсючкоў, з выбіраннем бульбы, з ягадамі і грыбамі і шмат з чым яшчэ. Да мясцовых азёраў на летнюю і зімовую рыбалку пастаянна ездзілі муж з братам, найпершыя памочнікі маіх бацькоў. Не забываюцца пра мяне школа, дзе я працавала, і мясцовая бібліятэка.

Захавалася духоўная повязь з настаўніцамі — прыяцелькамі маці і маімі таксама. У 2010 годзе запрасілі на сустрэчу былыя вучні СШ № 1 — у якіх я не толькі выкладала, але і была класнай. Незабыўныя абліччы не вельмі змяніў час, хаця яны, колішнія дзеці, выглядалі пасталелымі...



*Настаўніца. 1973 г.*

## ВЯНОК СТАЛЕННЯ

* * *

Бескампраміснасці прыкметы
Ў душы яскравей і чысцей.
Падчас з-пад выдуманых бедаў
Ўрачысты смутак прарасце.
Гляджу вачамі невідушчымі
У дні, нібыта у вякі,
Калі абставіны вылушчвалі
Мяне з дзяцінае лускі,
Калі была адразу бачна
Паміж дабром і злом мяжа,
І толькі так, а не іначай
Магла судзіць і вырашаць.
Расла таполяй незалежнаю,
Перакананая ўсур’ёз:
Што перадумана і сцверджана,
Што варта радасці і слёз,
Што ў марах выпешчана — тое
Заўжды жывое і святое.

## Слова

Яго загадкавая сіла
Мяне з дзяцінства паланіла.

У сэрцы сеючы удзячнасць,
Яно было мне і тады
Выратаваннем ад нуды
І ад маркоты недзіцячай.

Я паўтарала слова ўголас,
Другі вышукваючы сэнс.
Яно, разгаданае спрэс,
Было безабаронна-голым.

Яно свяцілася складамі,
Яно па-новаму жыло!
А я ўглядалася ў святло,
Нібыта шчасце выглядала...

...О слова — кропелька у моры
Маёй высакароднай мовы!

## Вясновы цуд

У лесе галюткім,
На кусце зымшэлым
Вясновае цуда квітнела.
Мы цудам не спешчаны,
Цуду мы рады:
У раўнадушшы убачым спагаду,
У слабасці — сілу,
У хітрасці — розум...

Я трошкі нарвала
Галінак дзівосных.
О, як ружавелі яны далікатна
У шклянцы з вадою,
Здзіўляючы хату!
Як пахлі адчайна,
Аж звялі суседкі —
Пралескі на сподачку.
Слаўныя кветкі!
Угледзела маці і войкнула:
— Выкінь!
Дзіця, ты прынесла воўчае лыка!
То ж воўчае лыка —
Атрута лясная!

А я і не знала...

* * *

*М. Ч.*

На мове шчасця размаўляла
Я з рэчкай той, што нас гайдала,
І з небам тым, што нас сляпіла
Мільганнем ластаўчыных крылаў.
На мове шчасця размаўляла
З лілеяй той, што не схіляла
Галоўкі чыстай і вільготнай,
І з лугам тым, што нам ахвотна
Прытулак даў...
А справа, злева
Было гудзення столькі, спеваў!
Пад разагрэтым млявым целам

Трава ледзь чутна шалясцела,
І свет змяняў у нейкі момант
Ружовы колер на зялёны,
Птушыны спеў на гул чмяліны,
Гарачы дотык на нявінны...

На мове шчасця размаўляла.
Каханай быць — ці ж гэта мала?

## Дачка вучыцца гаварыць

Беларусачка!
Зноў і зноў
Мне відно нараджэнне слоў —
Старажытных, як соль і хлеб,
Дарагіх, зразумелых лепш
Ў вымаўленні твайго ратка.
Як з крыніцы малой — рака,
Так, дачка мая,
з кроплі слова
Непрыкметна пачнецца мова...

Беларусачка!
Тулю да грудзей
Прадаўжэнне сваіх надзей.

* * *

Жыцця непрадугледжаныя змены,
Зусім не палічыўшыся са мной,
Мяне забралі з вёскі, дзе марэнны
Узгорачак здаўна завуць гарой.

З гары у ноч калісьці пазіралі
Жанчыны, скамянеўшы ад жуды,
А навакол тры вёскі палыхалі —
Тры вогнішчы, тры смерці, тры бяды.

На той гары — змяркanні залатыя.
На той гары — падаць рукой да зор.
Там у нядзелю рвуць вясной малыя
Пралескі для мінчанак, для сясцёр.

Там мары нашы стрэліся
і разам
Пайшлі у свет, у неабсяжны свет...
Стаіць гара — хай не раўня Каўказу, —
Высокая, як матчын запавет.

* * *

Бэз адцвіце — адпяе салавей.
Тэрмін на ўсё вызначае прырода.
Трэба дзяцей гадаваць.
За дзяцей
Самае лепшае песні не шкода.

Жухлыя кветкі забудуць зусім,
Як ружавелі, як пахлі заўзята.
Птушка занята гняздзечкам сваім.
Будучым
мудрая птушка занята.

* * *

Ты ручкай засланіся у сне —
Нібы па сэрцы ўдарыла мяне.
Так дзеці засланяліся рукамі
Ад самалётаў
з чорнымі крыжамі,
Ад грукату, ад роспачы, ад болю,
Ад несалодкай, ад сірочай долі.
Так дзеці засланяліся ад тых,
Хто лютасці сваёй
заносіў штых...
І каб перамагчы трывогу злую,
Я локцік палахлівы твой цалую.

* * *

Абцяжарана гронка рабіны
Снегам бязважкім.
Гэты снег, як мае успаміны, —
Ён і лёгкі, і цяжкі.

Гэты снег, як маё каханне,
Як шчасце наша:
Праз месяц, бадай, растане,
І зноўку ляжа.

Адкладзі мітусню на потым,
Вунь бель якая!
Абцяжарана сэрца пяшчотай —
Бы гронка тая.

## Жанчына я…

Жанчына я.
Пачатак і зыход
Ўва мне перапляліся непадзельна.
Я птушка лёгкакрылая —
Лячу
К вышыням духу, к сонейку любові.
Народжаная рухам і святлом,
Купаюся ў праменнях,
А пасля
Спускаюся на мілую зямлю,
Дзе ўсе жывём,
Дзе побыту ўсясільная стыхія,
Дзе нашы падрастаюць птушаняты…

Жанчына я.
Я зменлівасць сама
І цуда пастаянства.
Я жыву
Днём сённяшнім
І трошачкі наступным…

Жанчына я!

* * *

Я гэтак гляджу
На мурожныя травы,
На гулкія сосны,
На промень рухавы!
Я гэтак гляджу
На палі і лясы,

На ўсмешкі хлапцоў,
На дзяўчат валасы.
Я гэтак гляджу
(Замірае душа)
На ластаўкі лёт
І на спрыт мураша.
Я гэтак гляджу
На грыбы і калоссі,
Як быццам хвіліну
Мне жыць засталося.

* * *

Шкада мне цябе, любоў,
Калі ты брыдзеш, нябога,
Апошняй сваёй дарогай,
Збіваючы ногі ў кроў.

Шкада мне цябе, любоў!

Ты ўчора другой была,
Умела смяяцца звонка.
Дзівіліся людзі з вокнаў
На яву твайго святла.

Учора другой была...

Прабач жа няверных нас.
Мы варты твайго папроку.
Ці верыш, што й нам нялёгка?
— Прабачце і вы мяне.

* * *

На зямлі незвычайна ціха,
Калі крычыць парадзіха.

Нараджацца, пэўна, нялёгка
Ні істоце, ні зорцы далёкай,
Ні сцябліне, якая знутры
У зярняці расце да пары.

Як напружана з цемры тла
Птушанятка мкне да святла!

Як пакутліва і паволі
Нараджаецца сіла волі,
Наш характар і сталасць наша —
Хай пра гэта гады раскажуць.

Не без мук нараджаецца слова —
Тое слова, што ў бой гатова!

* * *

Не навучуся прызвычайвацца
К штодзённым стратам.
Мне шкода дня, які канчаецца, —
Ён быў мне братам.

Ён клапаціўся пра набытак
Маёй душы.
Ён працавіта і адкрыта,
Ён чэсна жыў.

І вось пайшоў ссінелым садам,
Куды — не знаю...

Свой дзень праводзячы паглядам,
Адно ўздыхаю...

## Іголкай промня

Іголкай промня сшыць хацела
Акраец чорны
                    з мрояй белай.
З гаркоццем — слодыч,
                    гром — з зацішшам
(Сцяблінку ветрык не калыша).
З узлётам — роспач і падзенне,
З апошнім — першае імгненне...

Я да крыві скалола пальцы.
Ці варта, скажаце, старацца?
Усё, што тут пералічыла,
Само жыццё намоцна сшыла.



*Журналістка. 1991 г.*

## ЦІМОША І КАМПАНІЯ

*Непрыдуманыя гісторыі*

Кажуць, што ўсіх людзей можна падзяліць на дзве катэгорыі: адны з хатніх жывёл больш любяць сабак, а другія — катоў. А ёсць і такія, хто любіць усё жывое — ад звера і птушкі да матыля і дрэва. (Што расліны жывыя — навуковы факт. Жывое ўсё, што расце і размнажаецца.)

Змалку любіла пагутарыць з каровай на пашы, з гарадской варонай у траве, з божай кароўкай на далоні, з беспрытульным дварняком на вуліцы. На прыпынку адзін з іх неяк падышоў і ўлёгся мне прама на ступні. Так і ляжаў, грэўся, пакуль самому не надакучыла...

Расла я да школы непадалёку ад Слуцка, у дзеда з бабуляй. Самы ранні ўспамін маленства: старыя сварацца з-за кацяняці (бабка непачціва згрэбла малое са стала, а дзед ускіпеў). Адна з прыгод дашкольнага ўзросту: загарнуўшы ў новую маміну касынку, нашу па вёсцы нежывога коціка, а потым спрабую яго ажывіць у цабэрку з дажджавой вадою... Каты ці кошкі заўсёды жылі ў бацькоў у Плешчаніцах, куды мы з мужам і дзецьмі пастаянна прыязджалі. Так што гэтыя непрыдуманыя аповеды з'явіліся на аснове непасрэднага кантактавання з нашымі «братамі меншымі». З імі звязана многа як забаўных, так і сумных гісторый. Адным словам — перад вамі карцінкі з натуры.

## Цімоша

З вядомых мне прадстаўнікоў кацінага роду Цімоша, напэўна, самы славуты. Не ў тым сэнсе славуты, што слава пра яго пайшла далёка, — не. Проста ён меў адну рэдкую для катоў асаблівасць: любіў агуркі. І не проста еў іх, калі голад, скажам, прыцісне, а лічыў за найлепшы ласунак. Дзеля эксперыменту мы яму прапаноўвалі на выбар кавалачак кілбасы і скрылёк маладога гурочка, і наш Цімоша, не раздумваючы, выбіраў апошняе. Ды так апетытна, смачна хрумстаў, што ўсе хатнія ад душы пацяшаліся.



*Бацькоўская хата ў Плешчаніцах. 1998 г.*

Жыў Цімоша ў мястэчку Плешчаніцы ў нашай тады яшчэ не старой бабулі Марыі. Дзяцінства ў яго было цяжкае, сірочае. Ягоная бяздомная маці-рыска раптоўна памерла, пакінуўшы малых кацянят на вышках у хляве (ці з'ела атручаную мыш, ці так што здарылася). Перад смерцю яна жаласна і гучна мяўкала — нібы развітвалася з дзецьмі, нібы знак ім падавала, што прыйшла б, пакарміла, ды — не можа...

Кацяняты выжылі цудам. Асцярожная матуля так надзейна прыхавала дзяцей ад людскога вока, што гаспадыня не змагла іх адшукаць у сене. Згаладаўшыся, тыя неяк выпаўзлі самі і перш карміліся з парсючковага карыта. Потым асмялелі, пачалі выбірацца з хлява на двор. Хто ведае, мо якраз тады Цімоша ўпершыню пакаштаваў на градзе агурок?

Так ці інакш, у хуткім часе ён ужо жыў пры доме і меў уласнае імя. А займець імя — гэта вам не абы-што! Калі ў цябе ёсць імя, да цябе звяртаюцца, з табой **гавораць**, а не толькі штурхаюць нагою, каб не замінаў. Акрамя таго, даводзілася чуць, што ўсялякае імя як набор пэўных гукаў і вібрацый уплывае на носьбіта імені і нават вызначае яго характар. Так што ўсе мы звязаны са сваімі імёнамі нябачнай повяззю.

Прыдумваннем імені займалася звычайна я. Здольнасць у мяне такая была і нават прывілея — як у старэйшай дачкі і шчырай аматаркі хатніх любімцаў. Цімошу, аднак, наша малодшая дачка Насця перайменавала: не выгаворвала яго даўгаватага імені і карысталася скарочаным вары-

янтам «Моця». Услед за ёй і іншыя сталі так яго зваць. Ну, Моця дык Моця... Так карацей.

Цімоша быў шэрай масці і ладнага памеру. Як і ўсе ягоныя вясковыя вольныя суродзічы, падчас надоўга прападаў з дому, а пасля з'яўляўся як ні ў чым не бывала. На яго скардзіліся суседзі: залазіў у парнікі і рабіў шкоду. Спытаеце, якую? Звязаную з яго дзіўным густам: ад'ядаў да хвосцікаў першыя вясновыя гурочкі. Рабіў гэта так: паднімаўся на заднія лапы ды няспешна з'ядаў цалкам альбо проста надкусваў. Зойдзеш, бывала, у парнік і абавязкова згледзіш пару недаедкаў.



*Цімоша*

Праз шмат гадоў напісаўся ў мяне пра ката вершык.

* * *

Пушок наш любіць агуркі.
Ну што за дзіўны кот такі?
Яму не лі ты малака,
А дай гурочак з парніка.
Ён будзе хрумстаць і жаваць
Ды ўсіх навокал пацяшаць.
Дык і не дзіўна, што Пушок
Сам у палоску, як гурок.

На палях каля гэтага верша адзін выдавецкі рэдактар зрабіў алоўкам ажно дзве заўвагі. Напісаў «Так не бывае» напачатку і «Агуркі не бываюць паласатымі» — у канцы. Самой мне ў вершы не падабалася толькі тое, што дзеля рыфмы і «складнасці» я падабрала другую мянушку...

З гэтым катом звязаны ў мяне адзін незвычайны выпадак. Прыязджаю ўвесну з Мінска да маці. А вясна — такая пара, калі ўсё кацінае племя пачынае мацней, чым звычайна, любіць волю. Цімоша дома не стыкаецца, два дні, як «у гулях». Нечага як быццам не хапае. Грэюся ля грубкі, думаю пра яго, і раптам за грудзінай, дзе ў чалавека, як кажуць, знаходзіцца душа, адчуваю лёгенькае торганне-трапятанне. Нібы крануўся хто мяккай лапкай.

— Мама, — кажу я, — зараз Цімоша прыйдзе.

Звычайна ўраўнаважаная маці аж зазлавала:

— Зусім ты здзяцінела са сваімі катамі!

І што б вы думалі? Ён сапраўды неўзабаве прыйшоў, але нават есці не стаў. Толькі памурлыкаў, пацёрся каля маіх ног і зноў падаўся па сваіх неадкладных справах. Быццам адчуў маю прысутнасць на адлегласці і забег на хвілю павітацца. Такая вось чуйная была ў нашага Цімошы натура. Можа, вы не ўпэўнены, што ў хатніх жывёл таксама ёсць душа? Ёсць, ёсць, не сумнявайцеся! Як бы яны нас любілі без душы?



*1975 г.*

## Сіма

Сіямскага дарослага ката мне ўдружыла мая добрая прыяцелька, дзіцячая пісьменніца Ніна Галіноўская. Яна ўбачыла яго ля свайго пад'езда — прыгожага, ладнага, яшчэ не паспеўшага схудаць. Згубіўся, мабыць, ці проста збег з дому. З гарадскімі распешчанымі жыхарамі такое нярэдка здараецца.

У Ніны дома была свая кошка. Акрамя таго, яна карміла пры ганку цэлыя ватагі бяздомных мурлыкаў, а пры патрэбе — лячыла іх, шукала новых гаспадароў. Гэткая тыповая «каціная мама», без якіх не абыходзіцца ніводзін шматкватэрны дом. Такім вось чынам Сіма ў нас і апынуўся.

Шкада, што мы не далі за яго якой капеечкі. Ёсць такая завядзёнка ў народзе — за «жывы падарунак», у тым ліку і расліну, пажадана даваць

хаця б сімвалічную грашовую плату. Але пра гэта мне ўспомнілася пазней.

Па першым часе Сіма няблага прыжыўся на чацвёртым паверсе дома на «Розачцы». (Так звалі і завуць карэнныя мінчукі вуліцу Розы Люксембург.) Выходзіў гуляць на пляцоўку, потым, асвойтаўшыся, на лесвіцу, затым і на клумбу, дзе блукаў паміж лапушыстых, вечна няполатых «нічыйных» кветак. Сам вяртаўся, пазнаваў свае дзверы, падаваў голас, каб адчынілі. Спакойны быў, ураўнаважаны кот. Хіба што кароткі, адцяты хвост сведчыў пра тое, што належаў ён да гордай, незалежнай пароды. Сіямскіх катоў лічаць злымі, агрэсіўнымі і, каб трохі ўтаймаваць, часам з дапамогай ветэрынара падкарочваюць хвост.

Цалкам характар гэтай пароды адкрыўся мне пазней — калі нам, у новую ўжо кватэру, прынеслі сіямку Клару. Але пра Клару раскажу ніжэй.

Сіма прабыў у нас адно толькі лета. Выпусцілі асеннім дзяньком на прагулку — і праз гадзіну як скрозь зямлю праваліўся. Доўга не магла я змірыцца з прапажай, блукала па суседскіх дварах і вуліцах, «кіскала», клікала: «Сіма! Сіма!» — ды не азваўся, не прыбег наш незадачлівы падарунак. У такіх выпадках кажуць: «Як прыйшоў, так і пайшоў...» Ці то забраў хто на дварэ, спакусіўся рэдкай пародай, ці то сам напалохаўся чагось і проста згубіўся, страціў кірунак. Тады мы яшчэ не ведалі, што ёсць і трэці варыянт: гадаванцы проста сыходзяць. Здавалася б, усяго хапае ў гарадской кватэры — корму, цяпла, увагі, ласкі... Адно не-

даступна — воля. Так вось і прападаюць — знянацку, раптам, каб знікнуць, назаўсёды растварыцца паміж бясконцых шэрагаў аднолькавых будынін, у прадзіманых скразнякамі дварах, у змрочных падвалах.

Бываюць і адваротныя выпадкі — неверагоднай вернасці свайму кутку. Мы ведаем нямала шчымлівых гісторый пра тое, як гадаванцаў завозілі кудысь за край свету, а яны праз многа месяцаў знаходзілі дарогу і вярталіся. Уявіце, як летам і зімой, удзень і ўночы, лясамі і вёскамі, пераадольваючы перашкоды, адмерваючы лапкамі кіламетры, крочыць схуднелая жывёлінка — дадому. Адну з такіх гісторый расказаў мне паэт Кастусь Цыбульскі. Іхні звезены кот з'явіўся праз год ледзьве жывы, з параненым бокам і без адной лапы. І памёр ля роднага ганка — як вечны дакор гаспадарам.

На гэты конт маю ўласную тэорыю: у такіх выпадках катоў і сабак вядуць здалёку дадому памяць і любоў кагосьці з хатніх — нябачная, але асязальная для жывёл ратаўнічая нітачка...

## Марацік

Кацінае жыццё непрадказальнае, поўнае небяспекі. Транспарт, сабакі, лясныя звяры, жорсткія хлапчукі, раскіданая для пацукоў атрута — не пералічыць тых няшчасцяў, што могуць напаткаць прадстаўніка кацінага роду.

Што ў горадзе, што ў вёсцы — усялякае здараецца. Рэдка які каток дажывае ў гаспадароў да глы-

бокай старасці. Едучы па Лагойскай шашы, мы нярэдка бачылі спляжаныя коламі шкуркі гаротнікаў, што ўздумалі падацца на паляванне ў жыта альбо ў суседні лясок.



*Марацік*

Марацік, пра якога я хачу раскназаць, таксама не зажыўся на белым свеце. Сасватала яго нам жонка Генрыха Далідовіча Марыя, суседка па пісьменніцкай дачы ля Лысай гары. Маўляў, сам прыбіўся; пакуль што кормім, ды лета заканчваецца, а з ім і дачны сезон. І да сябе ў горад кацяня не забярэш, і тут пакідаць нельга. Шкада, загіне... Паглядзіце, які харошанькі: пушысценькі, дымчата-шэры...

Ну, для мяне, дапусцім, усе харошанькія, нават тыя, што на памыйках ежу шукаюць. Але ж месца вольнага няма, свая «радасць» дома. Усіх бяздомных не прытуліш... І вырашылі мы адвезці катка да бабулі ў мястэчка. Маці мая не дужа ласкавая была ў адносінах да кацінага племені (было пра каго клапаціцца, гаспадарку маючы), затое бацька кожнага «кватаранта» браў пад апеку і карміў уласнаручна.

Пераезд Марацік вытрымаў з цяжкасцю: у «Масквічы» кепска стала коціку, млосна, як дзіцёнку. Не то хуткасці не пераносіў, не то ўжо тады нездаровы быў. Зашыўся ў куточак пад ся-

дзенне, і вырвала яго, бедненькага. Зазірнула яму ў вочкі, а тыя памутнелі, пасалавелі... Спыніліся, далі кацяняці на траўцы пасядзець, апрытомнець. «Абрадавалі» гаспадыню яшчэ адным нахлебнікам ды падаліся дадому з пачуццём выкананага абавязку.

Не мінула і месяца, як зноў мне давялося зазірнуць у тыя цёмныя вачаняты. Восень была, мы якраз капалі бульбу з бацькамі. Мне сказалі, што Марацік хворы, у яго штось падобнае на атручэнне. Знайшоўся ён вечарам: безуважна сядзеў пад кустом хрызантэмы (што «бабіным летам» яшчэ завецца). Раз-пораз яго тузала, рвала жоўцю. Ён цяжка дыхаў — аж бакі ходарам хадзілі, з рота ішла пена... Паклікала яго, пагладзіла — не рэагуе, як быццам не чуе ці не пазнае, і толькі на кароткі момант павярнуў у мой бок панура звешаную галоўку. Ды вочкі на гэты раз былі не проста мутныя, а як попелам усё роўна прысыпаныя, пустыя.

Брат Коля, таксама шчыры «кацятнік», паглядзеў на яго і кажа: «Не жылец». Спрабавалі, аднак, выхадзіць: занеслі на канапу ў веранду, захуталі, улівалі ў рот з піпеткі малако і расцёртую таблетку. Нічога не дапамагло. Думалі-гадалі — ці не ўдарыў хто кацяня пад бок? Нават нядобрага суседа падазравалі... З цягам часу дзеці забыліся пра небараку. А мне доўга яшчэ ўспаміназўся той страшэнна абыякавы, адсутны яго пагляд. Так пазірала з вачэй Мараціка кацінал смерць.

Перачытвала неяк свой дзённік і знайшла там даўнейшы запіс пра Мараціка. На заканчэнне

ішлі наступныя радкі: «Цяпер я ведаю, што *яна* пачынаецца з вачэй, пасяляецца перш у паглядзе, звівае там сваё страшнае гняздо... Божа, што б ты ні рыхтаваў мне, — не дай пабачыць *яе* ў *чалавечых* вачах, немагчыма вытрымаць гэты пагляд жывому...».

## Рыжык



*Рыжык*

Усе мы ў свой час былі маленькімі, як кацяняты. Нас гэтак жа насілі на руках, кармілі малаком, тулілі да грудзей, і памяць пра гэты немаўлячы рай, мабыць, прачынаецца, калі мы бяром у рукі пушысты цёпленькі камячок...

Пасля Цімошы ў нашых бацькоў жыў кот Грыша, пасля Грышы адзін час не было нікога. У тым сэнсе, што хатняга, законнага ката не было, затое пры доме кармілася дзікая шэрая кошка без імені, якая ў рукі не давалася, затое рэгулярна выводзіла ў хляве гэткіх жа дзікіх, непрыступных, як сама, кацянят. Мой брат іх заўсёды выпорваў і пасяляў на верандзе, а для мамы-кошкі адцінаў шыбку — каб магла заскокваць у любы час, не просячыся.

Ёсць меркаванне, што Рыжык быў сынам сышоўшага Грышы. Перш ён, як і іншыя кацяняты, сыкаў на нас, трымаўся воддаль, потым асмялеў, пачаў есці з рук і заходзіць у хату. Еў

ён, навучаны горам, падобна, у запас, бо накарміць яго ўволю было справай няпростай. Хлеб, бульбу, блінец — усё спажываў без разбору і зноўку патрабаваў, як быццам каліва ў роце не меў. Як тая ліхая каза, няроўнячы, што не піла, не ела... З-за гэтага, скажу прама, бабуля наша рыжага недалюблівала.

Найбольшым далікатэсам была для ката рыба. У дзве вуды лавілі яе два нашыя Міколы — муж і мой малодшы брат. Рыжык з дзікай кошкай цярпліва чакалі іх з рыбалкі і потым усе разам аказваліся ля ганка, каб дружна папрашайнічаць. Звычайна ўдосталь хапала ўсім, уключаючы суседскую «жыўнасць». Драбязу, што заставалася, брат закідваў у старую ванну на двары, куды набіралі ваду для паліву град. І пакуль там плавалі карасі ды плоткі, Рыжык не меў спакою. Садзіўся на край ванны ды скарыстоўваў у якасці вуды ўласную лапу. Бывае, што і зловіць якую неасцярожную рыбінку. А неяк да таго захапіўся, што страціў раўнавагу і боўтнуўся ў халодную ваду...

Палявала сямейства і на мышэй. Старая маці-кошка — у хляве, дзе нават пацукі трапляліся, а Рыжык меў прывілею заставацца нанач на кухні ці ў кладоўцы. Злоўленых мышэй ён акуратна складваў радочкам пад палавік (нібыта на захаванне). У такіх выпадках гаспадыня лагаднела, і быў шанц атрымаць штосьці смачненькае.

Быў наш кот чыстым, ахайным, але чамусь заўсёды, як цюцька, пахнуў вільгаццю і сіверам. З гадамі ён страціў спрыт і сілу, і яму ўсё цяжэй

было даказваць сваё лідарства суседскім нахабным кацярам. Аднойчы з-за ўлады ён пабіўся з прысадзістым, шыракагрудым катом, якога мы празвалі Чынгіз-ханам. Перамог ваяўнічы і маладзейшы сусед, і Рыжык надоўга сышоў з дому. У адзіноце, пэўна, залізваў раны, перажываючы свой сорам...

Рыжыкавы вочы нагадвалі дзве жоўтыя параспелыя вінаградзіны, а вушы ён увесь час скроб лапамі — ці не кляшчы завяліся. Мы не раз назіралі, як дзікая, нязменна котная яго матуля пяшчотна вылізвала сыну шэрстку на галаве і шыі. Як маленькаму...

Рыжыка мы любілі не толькі за ціхмяны нораў, але і за тое, што ён быў любімцам без пары спачылага дзеда Толі. Спаць Рыжык клаўся выключна на дзедаў ложак, а пачастунку чакаў ля ягонага месца ля стала. Нам здавалася, што ён памятае гаспадара гэтак жа, як усе мы, і гэтаксама сумуе без яго.

Прынята лічыць, што сабака прывыкае да гаспадара, а кот — к дому. Ці праўда гэта — не ведаю. Справа ў тым, што сабачыя пачуцці выяўляюцца больш актыўна, ярка, ідавочна. (Пародзісты шчанюк ад радасці можа нават усікацца.) Кот жа істота стрыманая, эмоцый не паказвае. А можа, ім і не абавязкова нас любіць? Галоўнае, што нам ёсць пра каго клапаціцца і з кім размаўляць.

Ведаю выпадак, калі ў будцы здзічэў вясковы сабака, з якім не размаўляла гаспадыня. І калі вам цяжка і самотна, не трымайце ў сабе кепскае, раскажыце хатняму любімцу пра ўсе свае няўдачы і

непрыемнасці. Ён выслухае вас і не задасць лішніх пытанняў. І адно правуркоча на вуха, што ён усё разумее, што яму добра жывецца ў вашым доме і што ён за тое ўдзячны.



*Апошні год у вайсковым гарадку.*
*1980 г.*

## Аліса

Маладзенькая Аліса жыла ў сям'і брата. Яна ўяўляла сабой досыць удалую помесь сіямкі з іншай пародай. Ад сіямскіх ганарліўцаў у яе прыгажосць, цёмныя лапы, хвост і галоўка, а ад простых суродзічаў — дружалюбны характар і светлае, палевае тулава.

З-за Алісы ўвесь час сварыліся пляменнікі, бо кожны лічыў яе сваёю і другому не саступаў. Зрэшты, яны і падросшы не перасталі сварыцца і раўнаваць адно к аднаму.



*Аліса*

Калі братава сям'я ад'язджала ў вёску на Палессе, Алісу бралі з сабою. Трыста кіламетраў на аўтамабілі яна перадольвала без усялякіх праблем. Падоўгу спала, ела і нават хадзіла ў спецыяльную місачку — быццам знаходзілася не ў дрогкім і гулкім металічным агрэгаце, а ў гарадской кватэры.

У вёсцы яна мела звычку сядзець усю ноч на старой ліпе і дзівіла вяскоўцаў тым, што хадзіла за гаспадарамі, як сабака. Яна і з сабакам знаходзілася ў самых прыязных адносінах — драмала разам з ім у будцы і ела з аднаго посуду. Лёгка ішла на рукі да чужых, нікога і нічога не баялася, з усімі знаходзіла агульную мову. Такому зычліваму, прыветнаму характару мог бы пазайздросціць і чалавек.

Пра камунікабельнасць — уменне ўступаць у кантакт — я шмат разважала. Як часта нам не хапае ўмення паразумецца, звычайнай смеласці пагаварыць з незнаёмым чалавекам, ад якога залежыць нейкае важнае пытанне. Калені слабеюць, сэрца тахкае, у роце перасыхае, патрэбныя словы застаюцца нявымаўленымі, а пытанні — нявырашанымі...

А ці ведаеце вы, што кантактавацца можна не толькі з дапамогай мовы, а яшчэ паглядамі,

усмешкамі, жэстамі? У прадстаўнікоў пароды кашачых ёсць свае прыёмы і звычкі. І тут Аліса была, як кажуць, па-за конкурсам.

Прыехаўшы ў Плешчаніцы ў сумцы на спадарожнай машыне (брат узяў яе з сабой на адпачынак), котка адразу адчула сябе як дома. У першыя ж дні вакол яе сабралася і аб'ядналася ўся мясцовая вусатая брація; усе разам, нават дзікая кошка з чарговым кацянём, спалі і гулялі гурмой у нашай зале. Пры гэтым чужога дзіцёнка Аліса па-мацярынску вылізвала, як быццам ён быў сіратой.



*Брат Мікалай з дзецьмі Машкай і Колем. 1994 г.*

Мы нястомна захапляліся свойскім норавам усеагульнай любіміцы. А больш за ўсіх мы дзівавалася бабуля Марыя. Бо варта было ёй сярод хатніх спраў прысесці, як Аліса бестурботна скокнула ёй на калені і ўлеглася.

І ці не сурочылі мы кошку гэтым сваім дзіваваннем? (Нездарма кажуць, што добрая гаспадыня і парася не пахваліць...) Бо як высушылі і звезлі праз тыдзень сена, як сабраліся ад'язджаць у горад, мы Алісу знайсці не змаглі. Толькі што была, хадзіла па агародзе, а тут — як выпарылася, як карова языком злізала, як і не было яе ніколі ў нашай хаце і ў цэлым свеце!

Мы доўга думалі і горача спрачаліся, куды б яна магла так раптоўна падзецца. Версіі былі наступнымі:

а) падалася на паляванне і скора вернецца;

б) далёка адышла ад дому і заблудзілася;

г) сышла знарок, каб не вяртацца ў Мінск;

д) яе скралі і звезлі на машыне.

Што тады здарылася, нам невядома дасюль. Аліса не знайшлася ні праз тыдзень, ні праз месяц, ні жывой, ні мёртвай.

Больш за ўсіх бедавала пляменніца Машка. Разам з Насцяй яны абышлі, і не аднойчы, бліжэйшыя агароды і вулкі, гучна клікалі па імені, распытвалі знаёмых, да ночы блукалі ваколіцамі — марна. Прапажа не адшукалася. Праз нейкі час суседка Рэня сказала, што бачыла вельмі падобную котку ў двары аднаго з прылеглых завулкаў. Такога варыянта мы якраз і не ўлічылі: зблудзіла на новым месцы — ды прыбілася жыць да чужых людзей. Я б нікольки не здзівілася, калі б пачула, што наша ласкавая Аліса і па сёння жыве-пажывае ў нечым доме, усіх любячы і ўсімі любімая.

## Мурзік

Пасля няўдачы з Сімам і адным падкінутым па знаёмству катом (аказаўся хворым на лішай і нарабіў нам бяды) мы вырашылі хатніх жывёлінак болей не заводзіць. Не паспееш прывыкнуць, як нешта здараецца! Тады дочкі шкадуюць, плачуць, і сама я адчувальная да такіх стратаў. Калі не шанцуе, разважылі, то навошта іх браць? Ды і

бацька наш Мікола не вялікі да катоў ахвотнік: то поўсць на адзенні, то пах спецыфічны, то канапу абдзіраюць — усё яму не так, усё не падабаецца...

Але аднойчы наш строгі бацька прыехаў ад радні з хітраватай усмешкай, а з-за адварота вайсковай курткі вызірала худзенькая вусатая пыска. Даволі брудная, трэба сказаць. Бо, як мы даведаліся, у вёсцы каток прывык залазіць у грубку, каб спраўляць там свае патрэбы. Быў ён падлеткавага — па чалавечых мерках — узросту. Як вымылі, аказаўся белым, толькі чорная несіметрычная пляма на галаве і чорны хвост.

Мянушку яму доўга шукаць не прыйшлося: мурзік і ёсць мурзік. Хоць не вельмі прыгожа, затое дакладна і без прэтэнзій.

Прыжываўся Мурзік цяжка і з прыгодамі. Першым чынам ён паспрабаваў скарыстаць пад туалет гаршкі з хатнімі кветкамі. Ён вывернуў з коранем наш любімы, падобны на дрэва вазон, папсаваў многія іншыя.

Потым аказалася, што ён ніяк не можа забыцца на вясковую вольніцу: як выйдзе на двор, на тую ж зарослую клумбу, то зазваць яго дадому практычна немагчыма. Даводзілася лавіць пры дапамозе розных хітрыкаў. Няўлоўны, як іртуць, ён лёгка выслізгваў з рук, але не ўцякаў далёка, а проста адскокваў на два крокі. Нібыта дражніўся: зловіш ці не?

Гуляць і дурэць ён быў вялікі ахвотнік, і ў нашых дзяўчат, Алены і Насці, рукі былі спрэс пакусаны і падрапаны. Ды яны асабліва не скардзіліся. Жывое ў доме — гэта для іх вялікая радасць і забава.

А тут і пераезд падаспеў — на вуліцу Заслаўскую. У новую кватэру мы ўнеслі Мурзіка першым. Традыцыя ёсць такая — каб першым у новы дом заходзіў кот. Там мы жылі вышэй, на сёмым паверсе, лесвіца ішла праз лоджыю і двое дзвярэй, так што з прагулкамі давялося развітацца. З такой нагоды, памятаю, з’явіўся дзіцячы верш.

❊ ❊ ❊

Надакучыла катку
У кватэры.
Звечарэецца адно —
Шусь за дзверы.
На двары яго сябры
Гульні водзяць.
Добра, што ні гавары,
На свабодзе!
Наш каток — скок ды скок —
Паспяшае,
Толькі лесвіца
Даўгая-даўгая.
Покуль сыдзеш па ёй,
Баючыся, —
Сябрукі нагуляюцца
Ўнізе...

Але ж і цяпнулі мы з Мурзікам гора! Словамі не перадаць. З прагулак усё і пачалося. Спачатку мы спрабавалі выгульваць яго, як сабаку, нават ашыйнік спецыяльны набылі, дакладней — нагруднік. Эксперымент не ўдаўся. Наш сябра ў знак пратэсту заваліўся на бок прама ў лужыну і

ісці на павадку наадрэз адмовіўся. Тады мы пачалі выносіць яго на руках і ў двары адпускаць. Ён ці зашываўся ў бліжэйшыя кусты, ці залазіў на адзінае высокае дрэва і адтуль флегматычна на нас паглядваў. Былі выпадкі, што хоць пажарных выклікай з лесвіцай, — не злазіць хоць ты плач!

Адзіным выйсцем стала дача, там кату воля вольная. Усю ноч насіўся, як ашалелы, па роснай траве, і такі мокры пад раніцу вяртаўся, што хоць яго выкручвай. Вось толькі дарогі на дачу не любіў: залазіў у машыне пад сядзенне, і ад страху ажно лапы пацелі. Раз-пораз вылазячы са свайго сховішча, задзіраў галаву і выглядваў у акно — нібы правяраў, дзе мы, ці скора прыедзем...

Адметнасцю Мурзіка былі яго незвычайныя паляўнічыя здольнасці. Лавіў ён усё што можна і што няможна: мух у кватэры, матылёў і жаб на дачы, плотак у трохлітровым слоіку. Панічна баючыся вады (кожнае мыццё — выпрабаванне для ўсёй сям'і), залазіў лапай у слоік і боўтаўся, як запраўскі рыбалоў.

А ўжо ж мышэй на дачы пералавіў — процьму! Еў іх, праўда, неахвотна, і, здаралася, яго ад такой ежы рвала. (Ад мышынай шэрсткі.) Болей дурэў, падкідваў лапай ды зноў лавіў чэпкімі кіпцямі — адным словам, здзекаваўся.

І ці не надумаўся ён вераб'я ці голуба злавіць з балкона? Мы нават не зразумелі спачатку, куды кот падзеўся. Мо на суседскі балкон перабраўся? Ажно не, здарылася горшае: спікіраваў наш Мурзік на дол прама з сёмага паверха. На шчасце, не на

асфальт — на траву, што яго і ўратавала. Мы яшчэ доўга і знайсці гарэтнага не маглі — прапаў. Праз тры дні сам выпаўз ледзь жывы з бліжэйшага падвала. Пыску, аднак жа, пабіў моцна, хварэў тыдні са два. Не ведалі, ці ачуняе пасля такога «прызямлення»...

Няшчасці пільнавалі Мурзіка на кожным кроку. Не тое, дык тое — увесь час нешта здаралася, увесь час нас ліхаманіла, а ў эпіцэнтры быў ён, вясковы «падарунак». Як пераехалі на новае месца (яшчэ да гісторыі з балконам), стаў наш сябра нейкім вялым, панурым. Перастаў бегаць, мух лавіць. Думалі, можа, вырас, пасталеў, дурасці паменела. Ажно гляджу неяк — звісае нітка з-пад хваста. Пацягнула за нітку, а следам — іголка вылазіць! Чорная ўся, акісленая... Умудрыўся, значыцца, іголку пракаўтнуць. Вы ўяўляеце? Уратавала нашу дурату толькі наяўнасць ніткі.

Што дабром наш валацуга не скончыць, відаць было з самага пачатку. Ён ці настырна мяўкаў ля дзвярэй, каб пусцілі, ці сам непрыкметна збягаў з дому і бадзяўся абы-дзе. На голас выходзіць не хацеў, даводзілася лазіць падвальнымі сутарэннямі, каб вылавіць уцекача ды вярнуць на сёмы паверх. Апынуўшыся дома, схуднелы і брудны кот галасна мяўкаў — жаліўся, расказваў, як яму холадна і галадна было без нас. Абяцаў нібыта: век больш нікуды не пайду!..

А самае горшае, што ён прыносіў на сабе неверагодную колькасць падвальных блох. Яны разбягаліся па кухні падчас працэдуры мыцця і з

цягам часу ператварыліся ў сапраўдную санітарную праблему. Так вось і мучыліся. Зловіш яго, вымыеш, патруціш насякомых, накорміш, а праз тыдзень ён зноў крычма крычыць ля дзвярэй, жыцця не дае: адпускай яго на волю — і ўсё тут!

Мурзік так і збадзяўся па гарадскіх дварах, мы доўга адыходзілі ад ягоных «конікаў». І думала тады, згадваючы яго: што ў ёй ёсць, у гэтай волі, калі з-за яе нават неразумныя стварэнні жыццём рызыкуюць?

## Клара



*Кларка*

Клару прынесла да нас аднакурсніца і сяброўка нашай старэйшай дачкі Лены — на яе дзень нараджэння. І вінавата прамовіла:

— Цёця Галя, вы толькі не злуйцеся на мяне за такі падарунак.

Каб і на гэты раз з «падарункам» чаго благога не здарылася, я дала за яго рубель. А выбачацца, скажам прама, было за што, бо сіямскае кацяня за першы ж тыдзень абадрала ў нас столькі шпалераў, колькі Мурзік не абадраў за паўгода.

А прыгожая ўсё ж парода — сіямская! Адны вочы сінія зачаруюць каго хочаш... Пыска завостраная, амаль чорная, вушкі даўгаватыя, як у лятучай мышы, а шэрстка святлейшая і на дотык атласная.

Сярод кошак такія могуць лічыцца «мадэлямі». Але як мы ні цешыліся з коткі, як ні песцілі, яна не прыручалася — не рэагавала ні на ласку, ні на догляд. Нуль эмоцый! Хоць ты яе на руках насі, хоць мілуй, хоць буськай — не муркне, нават галавой не патрэцца. Адно як моцна прагаладаецца — голас падасць. А яшчэ як нараджала кацянят і ёй балела — зазірала мне ў вочы, просячы дапамогі.

Такой яна была ад пачатку і да канца, усе шэсць ці болей гадоў знаходжання ў нашым доме на Заслаўскай. Праз год пасля яе адбыўся яшчэ адзін пераезд, а ў новай, размененай кватэры пасяліўся ўжо сабака — мілы, няўрымслівы дварнячок Кузя, якога нам за шкірку прынеслі плешчаніцкія хлапчукі. Так, нечакана для саміх сябе, са шчырых «кацятнікаў» мы ператварыліся ў заядлых «сабачатнікаў».

Дарэчы, у заходніх краінах праводзілі даследаванні, і выявілася, што адны ад другіх істотна адрозніваюцца характарамі. «Сабачатнікі», лічыцца, больш прыязныя, адкрытыя і лепш знаходзяць агульную мову з дзецьмі.

Пра сіямскіх катоў нездарма ходзіць многа баек. Што агрэсіўныя, помслівыя, што могуць кінуцца на чужога чалавека і нават на гаспадара, калі іх незаслужана пакрыўдзіць. Перакажу аповед, пачуты ад знаёмай. Калі на кухні хтось з сямейных павышаў голас (сварыліся між сабой альбо ўнука выхоўвалі), тут жа з іншага пакоя ў дзверы праслізгвала насцярожаная кошка. Нейкі час слухала, назірала за сітуацыяй, а потым без папярэджання кідалася на

таго, хто размаўляў «на нервах», і кусала за нагу. Такі вось выхаваўчы сеанс...

Наша, на шчасце, такіх конікаў не выкідвала. Сіямскі звераваты нораў праяўляла ў асноўным тым, што пакусвала мяне і дзяцей за ногі, патрабуючы, каб яе кармілі. Насці ад яе даставалася больш чым каму — мо таму, што меншая. Яшчэ адна аднакурсніца Лены нязменна выходзіла ад нас з насліненай шапкай: Клара знаходзіла і грызла ўсё мехавое. Спрабавала грызці нават ласіныя рогі ў калідоры. Калі дзеці залішне цягалі яе па руках, магла запраста кусянуць за нос. У гульнях таксама пераходзіла межы — была небяспечнай, як разыдзецца. Прасілася на ўсе высокія паліцы і антрэсолі. Любіла высока падскокваць: кідалася з разгону на вісячыя галінкі вазона — традэсканцыі, на сценны дыван, на ручку дзвярэй, калі хацела іх сама адчыніць. На апошняе, аднак, не хапала сілы. Затое кемлівасць якая!

Адчувала сябе каралеўнай — спала толькі ў ложку, са мной ці з дзяўчатамі, бліжэй да галавы альбо збоку пад коўдрай. Холаду баялася неверагодна. На пісьменніцкай дачы, дзе калісьці адводзіў душу Мурзік, адчувала сябе проста мярзотна. Чужой і няўтульнай здавалася ёй выстылая за зіму хаціна, ні матылі не вабілі, ні траўка, ні пясочак. Сходзіць на граду па далікатнай патрэбе — і то было праблемай. Далей ганку яна практычна не паказвалася, і мо адзін раз хіба абышла хату па перыметру, па цэментовай адмостцы. Паглядзеўшы на ўсё гэта, мы болей стараліся не браць яе з сабою, хіба тады, калі дома нікога не заставалася яе даглядаць.

Каб ведалі, дык бы й зусім ёй дачнага дому не паказвалі. Хай бы думала, што свет — гэта цёплая кватэра, дзе яна мае прытулак. Тады б, можа, і па сёння жыла з намі...

З гігіенай сіямкі мы ніякіх клопатаў не мелі. Акуратная была на дзіва! Нас навучылі купіць дзве місачкі для фотаработ: адна ў другую ўстаўляецца, а ў верхняй трэба свярлом нарабіць дзірачак, каб лапкі не намакалі. (Яе дачка Люська, якую забраў да сябе брат, увогуле хадзіла ў туалет на ўнітаз.) Затое мы нагараваліся з кармленнем. Пераборлівасць кошкі не мела межаў: падавай толькі свежае мяса ці рыбу. Улетку было лягчэй, неяк перабіваліся, бо наш бацька частавата прыходзіў са здабычай. Зімой жа, на падлёднай рыбалцы, удача яму ўсміхалася не заўсёды, і мы набывалі спецыяльны корм. Малака, смятаны і астатніх малочных прадуктаў для нашай каралеўны проста не існавала.



*Люська з патомства Клары*

Прыкладна раз у паўтара месяца Клара пачынала голасна патрабаваць жаніха. Даводзілася лічыцца з тэмпераментам нашай красуні. Для таго, каб яна стала мамай, мы прывозілі ёй кавалераў у старым саквояжы. Адшуквалі сіямцаў з дапамогай сяброў. Першым быў стары кот па мянушцы

Цяпа. За 12 гадоў ён добра-такі надакучыў свайму адзінокаму гаспадару, і той рады быў яго збыць хаця б на тры дзянёчкі.

Непрэзентабельны на выгляд, крыху аблезлы ад старасці Цяпа аказаўся найлепшым кавалерам. Няроўнячы — пан Быкоўскі з Купалавай п’есы! Уважлівы, настойлівы, пяшчотны, ён паненку нашу вылізваў з галавы да пят, пакуль тая не падпусціць. А момант іх знаёмства — як вачамі сустрэліся — помніцца дасюль: Цяпа высунуў галаву з сакваяжа, а Клара на адлегласці метра стала слупочкам, як укопаная. І так яны доўга-доўга, з вырачанымі вочкамі, нерухома пазіралі адно на аднаго...

Пазней Цяпу замяніў нелюдзімы Фанера, гадаванец паэткі Галі Дубянецкай. Гэты не адрозніваўся асаблівымі падыходамі, але вынік ад спаткання не прымусіў сябе чакаць.

Некалькі разоў радавала нас кошка прыплодам. Кацяняты нараджаліся белымі, як мышы, і страшнаваценькімі. У некаторых былі вінтом закручаны хвосцікі. Матуля з Клары атрымалася ўзорная: ёй і на хвіліну цяжка было пакінуць малых без нагляду. Клічам, бывала, есці, а яна, бедная, аж разрываецца паміж талеркай і сваімі піскляўымі немаўлятамі. Ухопіць збольшага ў рот — і хутчэй да дзяцей...

Увогуле перыяды родаў і догляду малых прыносілі нам шмат клопатаў і хваляванняў. Не проста было прывучыць маму-кошку да аднаго месца — увесь час перацягвала за шкірку каця-

нят, куды ёй уздумаецца. На ложак пад коўдру, на канапу і гэтак далей, пакуль мы не выгарадзілі спецыяльны завешаны куток. Не проста было малых карміць, як падрасталі. А найбольшая праблема заключалася ў тым, каб збываць падрослае патомства. Часткова мы раздавалі кацянят сябрам і знаёмым. Усе пяць штук наш бацька збыў неяк за капейкі на Чэрвеньскім рынку. Давялося і мне аднойчы на холадзе ранняй вясной пастаяць на базары з кацянём, але тады ніхто на мой «тавар» не спакусіўся.

Аднойчы кацяняты зрабілі рэальную шкоду. Пры ложку Лены вісеў яе новы касцюмчык, які я прывезла з Польшчы. Малыя з першага вывадка ўсчалі ноччу гульню: падскоквалі і чапляліся за тканіну кіпцікамі. Потым мы агледзелі, што рэч сапсавана — уся ў зацяжках.

Клара любіла грэцца на стале пад настольнай лямпай. Сцішыцца, прыжмурыць вочы — не то дрэмле, не то думае сваю каціную думу. Пра што яны думаюць, браты нашы меншыя, мы ведаць не можам. Наш абавязак — так наладзіць іхні побыт, каб на небе каціны бог ціха радаваўся за сваіх падапечных. Тады ўсім добра: і яму, і нам, і нашым сябрам.

Страцілі мы Клару неспадзявана, на той самай дачы «Узгор’е-2». Я адпачывала там са сваёй сяброўкай Таняй Захарэўскай. Быў сонечны жнівень. Клара, як заўсёды, грэлася на ганку, а потым неспадзявана прапала з вачэй. Хтосьці падказаў, што яе бачылі ў суседскім малінніку. Яна сапраўды знайшлася там, але ісці да мяне катэгарычна

адмовілася, паводзіла сябе, як дзікая, а калі зразумела, што ўцячы не зможа, то сінія вочы яе палыхнулі небяспечным чырвоным агнём. Як у фільме жахаў, далібог! Гэта быў выразны знак: нешта адбылося, чаго мы не можам ведаць, кошка з намі жыць болей не хоча.



*Дача на Лысай гары. 2003 г.*

Наступная наша паездка на дачу стала для Клары апошняй. Не раз мы пазней аглядалі тыя самыя кусты маліны — у надзеі, што прапажа знойдзецца. Дарма... А праз год і маліннік высеклі, бо побач пасяліліся новыя гаспадары.

## Дашка

Шэрая кошка, урэшце прыручаная, але так і не займеўшая імені, перажыла ў бацькоў многіх сваіх суродзічаў. Рыжая Дашка — з апошняга яе прыплоду, і можа, таму слабая і нягеглая. Вечна кволілася, важыла тры з паловай грамы і кацянят выводзіла не самых моцных.

«Трэба прывозіць катоў здалёку, пароду паляпшаць»,— неяк сказаў брат. (Хаця пародзістая Люська ім усім даўно далася ў знакі.)

Як ні дзіўна, менавіта Дашка растапіла лёд у сэрцы гаспадыні. Кошцы змалку — мо ад кволасці — патрабаваліся ўвага і догляд, і яна не стала чакаць «міласці ад прыроды»: сама дабілася прыхільнасці той, ад каго залежала яе існаванне. Як быццам сваім кацiным розумам цвёрда засвоiла адну вядомую ісціну: як ты ставішся да людзей, так і людзі да цябе будуць ставіцца.

А пачалося іхняе сяброўства з простага. Варта было нашай Харытонаўне нахіліцца (дровы, скажам, брала на дрывотні), як падрослая Дашка тут жа ўскоквала ёй на спіну. Сітуацыя нязвыклая, згадзіцеся, але груба зганяць «цыркачку» не выпадала. У выніку кволае стварэнне навучылася ехаць, балансуючы, на плячы ды скакаць з падлогі на падстаўленыя рукі.

Гаспадыня Дашцы трапілася няўрымслівая, вечна ў справах і турботах, а той патрабавалася цяпло. Час ад часу яна пачынала жаласна мяўкаць, задзіраючы галаву і гледзячы прама ў вочы. Гэта азначала адно: пара прыпыніцца і прысесці, даць магчымасць рыжай пасядзець на каленях. І тады ўжо ўдзячнаму мурлыканню не было канца...

Котка і нашага бацьку Міколу аднойчы хацела «ашчаслівіць», ды не на таго нарвалася. «Не тыя калені ты выбрала»,— сказаў ён і лісліўку непачціва спіхнуў. Неяк улетку рыжая перапалохала Лену: умудрылася на яе каленях акаціцца. Дачка паднялася з-за стала, а нованароджаныя, як гарох, пасыпаліся на падлогу... Мае дзяўчаты як запішчаць! І давай хутчэй збіраць ды ўстройваць

у надзейным месцы неспадзяваных гасцей.

У хвіліны добрага настрою Дашка лезла да бабулі «цалавацца» — старанна вылізвала ёй нос. Цікава, што да мяне і нашых дачок яна так не лашчылася. Хаця з двара, каб лапы не памачыць, магла прыехаць і на маёй спіне.



*Старая Дашка*

Мы прывозілі ёй з горада вітаміны і таблеткі ад паразітаў, а таксама «каціную радасць» — крывяную кілбасу. А Дашка, пры ўсёй сваёй худобе, на апетыт не скардзілася. Ад дзікай мамы да таго ж пераняла шкадлівасць і мела моду сцягнуць тое-сёе са стала.

З-за ласага кавалачка падчас усчыналася сварка з Тузікам — белым, калматым і вельмі ж рахманым сабачкам, які прыблукаў і прыжыўся ў бацькоў. У прысутнасці людзей кошка і сабака рабілі выгляд, што сябруюць. Маглі нават падрамаць на адным дыванку. На самай справе яны раўніва ставіліся адно да аднаго — як мае пляменнікі Машка з Колькам. І варта ім было аказацца на двары, як Тузік умомант звонкім брэхам заганяў Дашку на вішню ды яшчэ і пільнаваў, каб не злезла. Даводзілася гаспадыні ўмешвацца і падстаўляць сваёй гадаванцы плечы.

Калі мы прыязджалі, нас віталі па-рознаму: Тузік з усіх ног кідаўся насустрач, падскокваў, аж калаціўся ад радасці, а Дашка, падняўшы хвост у форме клічніка, чакала ля ганка і прывітальна яўкала.

Калі ў 2006 годзе прыйшоў час забіраць хворую бабулю ў горад, паўстала пытанне, што рабіць з Дашкай і яе познім прыплодам — малой Васілінай. (Тузіка к таму часу не стала, а яму на змену шчанюком прыбілася сучачка.)

Васіліну забралі першай, бо яна там зімою проста гінула. К пераезду бабулі кацярка паспела падрасці і прыжыцца ў нас на вуліцы Лынькова. Старую бяззубую маму-Дашку згадзілася ўзяць да сябе ў Сухарава ўжо замужняя Насця. Дашку яна па звычцы перайменавала ў Рыжую і ўжо іначай не называла. Кошка жыла ў калідоры, а кармілася на кухні (у адзіны пакой яе не пускаў Насцін Віталь). І тут надышлі важныя падзеі: у маладой сям'і нарадзілася дачушка. Зноў паўстала пытанне, куды падзець Дашку. І што б вы думалі? Нашу сваху пераезную прытулілі бацькі Віталя. Кошка аказалася ў Бабруйску і там жыла-пажывала, як сыр у масле качалася, бо так добра яе нідзе не кармілі. Мы даўно збіліся з ліку, колькі ёй гадоў.

Пра Дашчыну дачку Васіліну будзе асобная гісторыя...

## Васіліна

Старая Дашка спраўна засяляла ваколіцу сваім патомствам. Аднойчы яна выкуліла на свет чарговую партыю малых. Пакінулі дзвюх кошачак. Адну бабуля аддала маладой суседскай сям'і, а другая чамусьці «завісла» і падрастала ў доме. Я не раз назірала, як яна спала на верандзе ў гаршку з амарылісам, скруціўшыся вакол цыбуліны. Я і ў сне не магла прысніць, што ў бліжэйшую зіму яна апынецца ў Мінску.

Але пра ўсё па парадку.

Бабуля наша стала к той пары нездаровай, бяспамятнай, забывала пакарміць і сябе, і дзвюх сваіх кошак, і сучачку Віту, падабраную і прыкормленую братам. Гэта было вусатае, караткалапае стварэнне, шустрае і паслухмянае. Віту мы таксама забралі ў горад першай. Так у нас завялося двое сабак. А плешчаніцкую кошачку ўсё збіраліся аддаць «у харошыя рукі».

Імя яе літаральна звалілася мне на галаву. Падрослая шэрая кіса дэфіліравала па плоце, а я ішла міма



*Васіліна*

па сваіх справах. Не было нават думак, каб неяк яе «абазваць». І раптам — бух, на макаўку звалілася імя! Спеўнае, гожае, чалавечае імя — Васіліна!

Васіліне ў адзінокай нашай бабулі жылося цяжка. У маразы, калі яе забывалі пусціць у хату, яна чаплялася за аканіцу, зазірала ў кухню і крычала немым голасам. Гэтая карціна проста рвала сэрца. Ніводзін кот дасюль так настойліва не нагадваў пра сябе, не патрабаваў увагі. І я рашылася: забяру ў гарадскую кватэру, неяк перакачаемся. Муж, вядома, радасці не выказаў, толькі Антон пахваліў: «Ты, баба, малайчына!».

Кошка прыжылася на новым месцы досыць лёгка. Спала ў лазовым дамку ў прыхожай, асвоіла пасудзіну з апілкамі-катышкамі, хадзіла на прагулку на лоджыю і ў калідор. Я прыносіла ёй траву з двара, каб яна магла ачышчаць страўнік. (Успамінаецца, як Мурзік з'еў іголку: яму нітка спатрэбілася замест травы!) З ежай наша любіміца капрызіла: не ўсялякія сасіскі ела, не пераносіла крывянкі. Ліверку ёй падавай з пячонкі, крабавыя палачкі, рыбу... Ну яшчэ малачка магла пахлябтаць... Хто б мог падумаць! Пасля плешчаніцкай галадухі такая пераборлівая! З маленства ў яе засталася кепская звычка — асцервянела кідаецца на белы хлеб, калі пакінуць яго на стале. Не столькі есць, колькі шматае. Быццам сто год някормленая.

З першых дзён Васіліна знайшла сабе «назіральны пункт»: самае высокае месца ў кватэры. Заскоквала на халадзільнік і яшчэ вышэй — на хлебніцу. Адтуль пазірала ўніз, звесіўшы галаву. А каб

патрапіць на любімае месца або адтуль саскочыць, з разгону гойсала на круглы кухонны стол, разліваючы чай з нашых кубкаў.

Калі Кларка была незалежнай, то Васіліна — патрабавальнай. Яна гучным крыкам патрабавала ўсяго, чаго хацела: каб яе пусцілі ў дом, каб зачынілі фортку, бо ёй холадна, каб пагладзілі, пашкадавалі, каб спяшаліся карміць. А часам і проста так. Насця падгледзела такую карціну. Падрослая кошка сядзела на дарожцы пры бабіным ганку і па звычцы звягала досыць праціўным голасам. Падышла мама Дашка і моўчкі стукнула яе лапай па носе. Выхоўвала як умела.

З цягам часу я вельмі прывыкла да кошкі і шчыра яе палюбіла. Шмат прыдумала для яе ласкавых мянушак: *рыбунька, раднулька, Васілюшка, Васілінчык, лупацька, шэры каток...*

Васіліна, як лічыць наш зяць Віталь, з пароды еўрапейскіх дзікіх лясных катоў: буйнаватая памерам, традыцыйна шэра-паласатая, спадыспаду і на спіне — ад мамы Дашкі — праглядае рудая поўсць, а на пысе адзіная белая пляма. Як быццам смятану ела, ды яшчэ й на грудку нацякло. На лобе — выразная літара М, як ва ўсіх асобін гэтай пароды.

У кацяркі свае дзівацтвы. Ваду яна п’е толькі са струменьчыка, з-пад крана. Днём не злазіць з падаконнікаў, усё выглядае штосьці на двары. Удзень спіць выключна на маім ложку альбо ў бабуліным пакоі пры батарэі. Абсалютна не церпіць, калі яе трывожаць падчас сну: здольна ўкусіць за руку. Улетку, калі наш Пятровіч выводзіць на прагулку

сабак, яна бяжыць на лоджыю і адтуль, праз акно, пачынае мяне будзіць: яўкае, пакуль не падніме з ложка. Зімой яна гэтак жа настойліва раве ля дзвярэй, пакуль я не ўпушчу яе ў пакой. Прыемна ўзяць яе — гладзенькую, шаўковую — раніцай да сябе пад коўдрачку... І паспрабуй не ўзяць! Так енчыла, што яе, мабыць, чулі ўсе бліжэйшыя жыхары нашага дванаццаціпавярховага дома.

«Мыць» мяне Васіліна пачала недзе на пятым годзе нашага сумеснага пражывання. Перш чым праслізнуць пад коўдру, сядала на падушку і пачынала старанна вылізваць мне галаву, як свайму кацяняці... Хто б мог падумаць, што ў шаўковай Васіліны язык што тарка! Я адчувала сябе кацянём, пра якое клапоціцца матуля. З гэтага я зрабіла выснову, што кошка палюбіла мяне гэтак жа моцна, як і я — яе. І думаю цяпер: як я магла так доўга пасля пераезду на Лынькова жыць без «хатняга доктара»? Не, сабака кошку ніколі не заменіць!

З дзвюма нашымі «цюцянятамі», як я іх заву, у кошкі складаліся цікавыя адносіны. З Вітай яны, дурэючы, куляй насіліся па кватэры. Прычым кошка — па вярхах: сталах, канапе, падваконні, а таму мела перавагу. Віта па першым часе спрабавала прыкусваць ёй шыю. Нішто сабе



*Кузя, плешчаніцкі зямляк Васіліны*

жартачкі!.. Але падросшы і ўвабраўшыся ў сілу, Васіліна магла сама накідвацца на сабак, а плешчаніцкую сяброўку нават спрабавала абвальваць. Як рысь! Але хіба справіцца кошка з сабакам? З-за неабходнасці ўвесь час абараняцца Васіліна стала мускулістай, як спружына. А старога непаваротлівага Кузю без дай прычыны стукне лапай па носе, і на гэтым адносіны заканчваюцца.

Усе яны па поўнай праграме «адрываліся» на дачы. Але не на той, дзе Клара згубілася; мы набылі сабе хату ў вёсцы непадалёку ад Ракава. Сядзібу абступілі стагадовыя ліпы, у дупле адной з іх пасяліліся дзікія пчолы. Часта прылятаЛі шэршні, адзін мяне нават укусіў. Вёска малалюдная, там можна за дзень не пачуць чалавечага голасу. Кузя раз-пораз акунаўся ў бліжэйшай копанцы, бо з-за густой поўсці яму вечна было горача. Віта звыкла лётала за намі — без павадка, але як прывязаная. Налётаюцца — аж цяжка дыхаюць...

Пакуль сабакі спалі ў сенцах, Васіліна ішла на паляванне на цэлую ноч. Удзень яна панадзілася лавіць звяркоў, якіх завуць землярыйкамі. Звярок трошкі меншы за мыш, з цемнаватай шкуркай, а носік выцягнуты, як хабаток. Яны харчуюцца насякомымі і рыюць норкі, падобныя да краціных. Распладзіліся землярыйкі ў скошанай падсохлай траве, адкуль Васіліна іх і вывалоквала. Але не ела.

Прыносіла з двара таксама звычайных, ладных памерамі палёвак. Для яе гэта падзея, падобна, была стрэсам, бо кошка бегала і яўкала больш чым звычайна, напамінаючы курыцу, што знесла яйка і апавяшчае цэлы свет.

У мяне ёсць п’еска з назвай «Кіска, не падманеш!», яна пачынаецца такімі словамі:

Дык злаўлю ці не злаўлю
Гэта дробнае стварэнне?
Бо канчаецца цярпенне
І затрымкі не люблю.



*Тут добра ўсім*

На дачы ў вёсцы таксама без прыгод не абышлося. Збіраліся ў нядзелю ад’язджаць (па выхадных толькі там бываем), ажно бачым — імчыцца кавалькада: наша кошка, за ёй — чорны бяздомны кот, і з брэхам, апошняй — неўгамонная Віта. Каты вокамгненна аказаліся высока на ліпе. Нашаму бацьку давялося шукаць самую доўгую лесвіцу, валачы яе да ліпы, прыладжваць да вяроўкі карзіну, залазіць самому на дрэва і кошку здымаць.Чорны лёгка злез сам. Я, прызнацца, ва ўсім абвінаваціла сучачку. Думала, што яна іх і загнала...

Чорнага кацяру ў вёску нехта, верагодна, падкінуў, ён з’явіўся раптам і дарослым. Жыў паляваннем. Раз-пораз мільгаў то пры вуліцы, то на суседскім падворку, але да нас не набліжаўся. Праз тыдзень сітуацыя паўтарылася, але з горшымі

наступствамі і ўжо без Віты. Другая ліпа на падворку яшчэ вышэйшая, і зноў там сядзела кашэчая парачка, да таго ж Чорны злосна кідаўся на кошку прама на галінах. Зноў пачалася аперацыя «выратаванне»: агрэсіўнага ката давялося скідваць граблямі, а напужаная да смерці Васіліна сядзела на суку да ночы і толькі пад раніцу папрасілася ў хату.

Пасля гэтага мы за сваю любіміцу сур'ёзна трывожыліся, ды і сама яна далёка ад хаты ўжо не адыходзіла.

З гадамі кошка стала падобнай на маму Дашку: гэтак жа шчэміцца ўвечар на калені гаспадыні, а самае цікавае — у яе прыкметна парыжэла поўсць. Але, у адрозненне ад Дашкі, вуркоча рэдка. Я не раз назірала, як яна глядзіць тэлевізар. Не навіны якія-небудзь, не канцэрт, а толькі сюжэты пра звяркоў сурыкатаў на канале «Планета жывёл». Яна сядзіць бліз экрана, задраўшы галаву, і сочыць, як звяркі бегаюць-мільгаюць з паднятымі хвастамі. І адразу траціць цікавасць, калі пачынаецца рэклама.

Неяк я бачыла па «тэліку» сюжэт пра лабрадорскую пароду. Там гаварылася: калі лабрадорская кошка ў доме, там не павінна быць ніякіх іншых катоў, ніякіх сабак, ніякіх дзяцей. Гэта кошка-ўладарка, кошка-лідэр. Амаль тое ж можна сказаць і пра нашу Васіліну.

А яшчэ я забыла сказаць, што ў нашай Васіліны зелянцовыя вочы.

Калі я вяртаюся дадому і адчыняю дзверы, у іх прасоўваюцца тры галавы. Дзве знізу, сабачыя, і адна з сядушкі — нашай кошкі. Усе ўжо сталыя. Кузю цэлых 14 гадоў, Віце — 8, Васіліне — 7. 17 гадоў жыве ў сям'і брата дачка Кларкі Люся. Да нядаўняга часу дажывала свой век у сватоў старая Дашка. Наконт яе ў нас дыскусія. Адны кажуць, што яна на год старэйшая за Антона, а другія — што на год маладзейшая. Значыць, ёй было або 18, або 20 гадоў. Пры добрым доглядзе і калі нічога не здараецца надзвычайнага, хатнія жывёлінкі бываюць доўгажыхарамі.

У Сухараве падрастае яшчэ адна добрая душа. Насця з Евай выходзілі з метро на Пушкінскай, а там на прыступках цёткі прадавалі кацянят. Трохгадовая Ева назаўтра пацікавілася, а ці купіў іх хто. Яшчэ год-два — і яны або возьмуць котку з рук, або знойдуць нічыйную, або прынясе хто ў дом, як нам прыносілі. Покуль ёсць пад сонцам здольныя любіць і клапаціцца, будуць жыць пры нас і нашы гадаванцы.

*2005–2012*

## ПАСЛЯСЛОЎЕ

Ішоў час, несучы перамены і пераезды, але наша прывязка да Плешчаніцаў была трывалай. Адно што старэлі, слабелі бацькі. Першым — і неспадзявана — у 64 гады завяршыў свой зямны шлях бацька Анатоль Сцяпанавіч. Першага свайго ўнука ён не пабачыў. Адзінокая Харытонаўна згарнула, вядома, гаспадарку, але не адразу, ды і сама яна па ўзросце патрабавала ўсё болей клопату. Цяжкая хвароба, што развівалася марудна і непрыкметна, прымусіла мяне ў 2006 годзе забраць маці да сябе ў горад. Не раз назірала ідылічную карціну — як бабуля ў сваім пакоі грэецца ў промнях ранішняга сонца, побач дрэмле Васіліна, а да ног туляцца два задаволеныя існаваннем сабачкі...

Праз два гады плешчаніцкі дом па Барысаўскім завулку перастаў быць нашым. Пасля хіба што на Радаўніцу наведвалі родную магілку, адгарадзіўшы — на будучае — «плошчу» і для нас саміх. У канцы 2012-га завезлі туды на вечны спачын пакутніцу-маці. Ды ўсялякая згадка пра Лагойшчыну, сама шаша на Віцебскім кірунку яшчэ доўга будуць адзывацца шчымлівай пяшчотай да тых, што праводзілі нас ля брамкі і доўга пазіралі ўслед машыне.

*2012*

**ЗМЕСТ**



---

Фотаздымкі з асабістых архіваў Г. Каржанеўскай, Р. Беразоўскай, І. Пачкоўскай, А. Капарыхі, Н. Рыльчыкавай, К. Жардзецкай і з сайта «Наследие слуцкого края».

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 34

**Каржанеўская** Галіна Анатольеўна

«ШТО ВАРТА РАДАСЦІ І СЛЁЗ...»
*Біяграфія ў вершах і нарысах*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі,* рэдактар *Б. Пятровіч,*
вёрстка *Л. Ваўчок,* карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 14.02.2013. Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 6,05.
Ул.-выд. арк. 2,68. Наклад 300 ас. Зак. 100.

ПУП «Кнігазбор». Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд». Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.